

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

Інфармацыйны бюлетэнь №2(10) Люты 1999

## ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Да цябе, **Народ Беларускі**, да вас, нашчадкі далёкіх продкаў, што пражылі тысячагоддзі на нашай старажытнай зямлі, Слова Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта, створанага па ініцыятыве Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**Набліжаецца да канца другое тысячагоддзе ад Нараджэння Хрыстовага.** Завяршэнне такой гістарычнай эпохі мае важнае значэнне ў развіцці Чалавецтва. Многія народы і дзяржавы імкнуцца зараз падсумаваць дасягненні і страты, абазначыць сваё месца ў свеце.

Толькі невялікай колькасці пакаленняў даравана лёсам жыць на мяжы тысячагоддзяў. **Менавіта нам і належыць выканаць абавязак перад нашчадкамі, здолець асэнсаваць пройдзены беларускім народам шлях, перакінуць мост у новае тысячагоддзе.**

Надзея і падстава да таго — у слаўных традыцыях, што на вякі замацаваны ў душах і пісьмёнах нашых суродзічаў. Нашы продкі адвагай, розумам і рупнасцю будавалі, мацавалі, ахоўвалі сваю Айчыну і Дзяржаву, каб застацца ў гісторыі, не знікнуць у забыцці.

***На мяжы тысячагоддзяў акінем поглядам сваё вялікае гістарычнае мінулае, зразумеем і вызначым, хто мы сёння ёсць — Народ Беларусі.***

**У мінулым нумары нашага бюлетэня паведамлялася пра стварэнне Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў", куды ўваходзіць і афіцыйны прадстаўнік Цэнтра "Беларуская перспектыва". Гісторыкі і публіцысты, юрысты і культуролагі, словам, знакамітыя гуманітарыі нашай краіны падрыхтавалі тое "Слова...", публікацыю якога мы пачынаем. Распрацаваны таксама і асноўныя праекты Праграмы "Беларусь — 2000 гадоў". Каго яны цікавяць — пішыце. Дашлём.**

# СЛОВА

## ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГРАМАДСКАГА АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА "БЕЛАРУСЬ – 2000 ГАДОЎ"

### 1. НАЦЫЯ

Карані беларускай нацыі ідуць у глыбокую даўніну. Беларусы належаць да **старажытных** народаў Еўропы. Наша народнасць, як і большасць іншых, сфарміравалася ў выніку працэсаў міграцыі старажытных насельнікаў Азіі і Еўропы, сінтэзу плямёнаў, што жылі ў розныя часы на абшарах, якія займае сённяшняя Беларусь.

З археалагічных крыніцаў вядома, што самым старажытным насельніцтвам на тэрыторыі Беларусі былі еўрапеоіды-абарыгены. Каля трох тысяч гадоў таму на тэрыторыю будучай Беларусі прыйшлі фіна-угорскія плямёны з-за Урала. У II тысячагоддзі да н.э. Еўропу пачалі насяляць індаеўрапейскія плямёны з Азіі. Спачатку на нашы землі прыйшлі індаеўрапейскія плямёны балтаў, яны асімілявалі абарыгенаў і фіна-угорцаў.

Першыя пісьмовыя звесткі аб нашых продках сустракаюцца ў старажытнагрэчаскага гісторыка і географа Герадота. Ён апісаў вайну персідскага цара Дарыя са Скіфіяй, што адбывалася ў 513 г. да н.э. на тэрыторыі сучаснай Украіны. На поўнач ад скіфаў, сцвярджае Герадот, прыкладна на тэрыторыі сучаснай Беларусі, жылі неўры, або нарцы, якія засяляліся каля будзінаў, ці гудзінаў.



*Каложская царква ў Гародні.*

На пачатку I тысячагоддзя н.э. на большай частцы тэрыторыі нашай краіны жылі плямёны балтаў: яцвягі (Гарадзенская і часткова Берасцейская землі), лотва (Віцебшчына і Усходняя Міншчына), дайнова (Нарачанска-Маладзечанскі край), літва (Верхняе і Сярэдняе Панямонне) і інш.

З VI ст. тэрыторыю Беларусі пачалі засяляць славянскія плямёны, што вылучыліся з індаеўрапейскага этнасу і першапачаткова асталяваліся ў Еўропе. З цягам часу яны асімілявалі балтаў. **Асноўныя карані індаеўрапейскага радаводу, славянскі і балцкі, а таксама фіна-угорскія элементы вызначылі этнічную адметнасць нашага народа, яго рознасць ад рускага, украінскага і іншых славянскіх народаў.** У савецкія часы такая асаблівасць этнагенезу беларусаў катэгарычна адмаўлялася. У нашай гістарычнай навуцы панавала надуманая канцэпцыя аб існаванні старажытнарускай народнасці, з якой нібы паходзілі тры братнія славянскія народы – рускі, украінскі і беларускі. Так навязвалася ідэя, што гэтыя народы нібыта абавязаны жыць заўсёды ў адной дзяржаве. Але, як сведчаць гістарычныя крыніцы, у кожнага з іх быў свой шлях нацыянальнага фарміравання.

На тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Гарадзеншчына і Невельшчына), дрыгавічы (Цэнтральная Беларусь і Паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына і Заходняя Браншчына). Жылі тут і іншыя ўсходнеславянскія плямёны – драўляне, славены, валыняне.

З VI–VII стст. пачынаецца доўгі працэс кансалідацыі славянскіх плямёнаў і асіміляванага імі балцкага насельніцтва ў адзіную этнічную супольнасць. Спрыяла гэтаму ўтварэнне дзяржаўных аб'яднанняў.

У канцы X ст. крывічы стварылі нашу першую дзяржаву – Полацкае княства. З сярэдзіны XIII ст. асноўная роля ў дзяржаўным будаўніцтве на нашых землях перайшла да Панямоння, дзе жылі славянскія плямёны крывічоў і дрыгавічоў, а таксама балцкія — літва і яцвягі. Тут узнікла новая славяна-балцкая дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), да якой пазней далучыўся і Полацк. На працягу амаль паўтысячы гадоў існавання ВКЛ на тэрыторыі будучай Беларусі сфарміравалася адзіная народнасць – **літвіны** (ліцвіны). Яна складала большую частку насельніцтва Княства, што жыла на асноўнай тэрыторыі дзяржавы – ад Гародні да Вільні, ад Полацка, Мсціслава, Гомеля да Турава, Пінска, Бярэсця. **Назва "літвіны" стала гістарычным этнонімам беларусаў.** На ўскраінах ВКЛ жылі іншыя народы, якія захоўвалі сваю этнічную адметнасць, сярод іх – балцкае насельніцтва (жамойты, аўкштайты), насельніцтва украінскіх земляў. У сувязі з гэтым існаваў і палітонім "літвіны", які азначаў дзяржаўную прыналежнасць усіх жыхароў ВКЛ.

Пад канец XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае, якое на той час уваходзіла ў канфедэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую, страціла сваю дзяржаўную незалежнасць у выніку падзелаў канфедэрацыі паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Землі ВКЛ былі далучаны да Расійскай імперыі. Змена палітычнай сітуацыі адмоўна паўплывала на нацыянальнае жыццё народа. Царскія ўлады праводзілі на нашых тэрыторыях палітыку татальнай русіфікацыі. Паступова знікла з ужытку сама назва насельніцтва "літвіны". У складзе Расійскай імперыі за нашымі землямі замацавалася назва **"Белая Русь", "Беларусь"**, якая з'явілася яшчэ ў XIVст. і ўжывалася ў адносінах да ўсходніх раёнаў нашай краіны, жыхароў якіх называлі "русінамі".Назва не мела дачынення да расійскіх земляў, што ў той час былі вядомыя як Масковія. Менавіта ўсходнія губерні (Віцебская і Магілёўская) першымі былі далучаны да Расійскай імперыі пасля падзелу 1772 г. На іх аснове было створана Беларускае генерал-губернатарства. У выніку наступных падзелаў на тэрыторыі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі ўзніклі яшчэ два генерал-губернатарствы: Літоўскае і Гродзенскае. Аднак гэтыя назвы не адпавядалі стратэгічным мэтам імперскіх уладаў. Пасля 1840г. у адносінах да нашых зямель пачало ўжывацца абразлівае найменне – "Северо-Западный край" як правінцыі Расійскай імперыі без усялякай нацыянальнай адметнасці. Такім чынам, літвіны-беларусы перасталі існаваць як асобная народнасць у афіцыйным жыцці Расіі. Але ў рэальнасці яны прадаўжалі захоўваць сваю нацыянальную асаблівасць, культуру, мову.

У другой палове XIX ст. нацыянальная патрыятычная інтэлігенцыя, якая выступала за адраджэнне свайго народа і яго дзяржаўнасці, аднавіла назву **"Беларусь", "беларусы"** як сімвал пратэсту супроць расійскага ўціску. Пад гэтаю назваю наш народ увайшоў у XX ст., замацаваў яе за сабою ў сусветнай супольнасці і ўступае з ёю ў новае тысячагоддзе. **Але нам неабходна памятаць, што мы — нашчадкі літвінаў, прадаўжальнікі іх патрыятычных справаў.**

Нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, які адчуваў на сабе беларускі народ пад уладаю расійскага царызму, усё ж не мог стрымаць жывую плынь далейшага этнічнага развіцця нацыі ў XIX ст. Разбурэнне натуральнай гаспадаркі, развіццё новых эканамічных адносінаў стварылі магчымасці для пашырэння гаспадарчых і культурных кантактаў на беларускіх землях. Міграцыя насельніцтва садзейнічала далейшаму фарміраванню агульнай культуры, мовы, умацаванню этнічных сувязяў і нацыянальнаму самавызначэнню людзей. У гэтых умовах у беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, адбываўся працэс далейшага пераўтварэння народнасці ў адзіную беларускую нацыю — больш дасканалую форму самавызначэння этнасу.

Страта ўласнай дзяржаўнасці, спачатку часткова ў складзе Рэчы Паспалітай пад канец яе існавання, а затым поўнасцю ў Расійскай імперыі, прывяла да цяжкіх наступстваў у жыцці беларускай нацыі. Прынцыповае значэнне мелі змены ў сацыяльным складзе беларускага народа. Сумныя вынікі перапісу 1897 г. сведчаць пра тое, што беларусы ўжо не з'яўляліся гаспадарамі на сваёй Бацькаўшчыне, як гэта было ў часы незалежнага існавання Вялікага Княства Літоўскага. **У важнейшых галінах эканамічнага жыцця — землеўладанні, прамысловасці, гандлі — амаль не было беларускай прысутнасці. 95% беларусаў належала да сялянскага саслоўя і знаходзілася ў паднявольным стане**. Сярод гарадскога насельніцтва налічвалася толькі 14,5% беларусаў. Варта ўспомніць, што ў ВКЛ у XVI ст. беларусамі было 80% гараджан. Адпаведна і беларускае нацыянальнае жыццё было зведзена да этнаграфічнага ўзроўню, як кажуць, "да лапцяў і спадніцаў". **Так нас, старажытны еўрапейскі народ, які меў сваю паважаную ў Еўропе дзяржаву з моцнай гаспадаркай, дэмакратычным ладам жыцця, высокаразвітой культураю, паступова ператваралі ў "мужыцкую нацыю".**

Далейшае жыццё было не лепшым. Нацыянальнае адраджэнне беларусаў у пачатку XX ст., якое стала магчымым ва ўмовах крызісу і развалу Расійскай імперыі, было жорстка перапынена савецкімі палітычнымі рэпрэсіямі. У выніку амаль цалкам была вынішчана маладая беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, беларускія дзяржаўныя і гаспадарчыя кіраўнічыя кадры. У савецкія часы беларусы, як і іншыя народы Савецкага Саюза, перажылі таксама цяжкія наступствы палітыкі дэнацыяналізацыі і зліцця ўсіх народаў у адзіны савецкі народ.

**З пазіцыі сённяшняга дня добра відаць, што за два стагоддзі страты дзяржаўнасці беларуская нацыя амаль у кожным пакаленні давала плеяду нацыянальна свядомых выдатных людзей, і кожны раз большасць з іх бязлітасна знішчалася або выганялася з краіны. Наш горкі вопыт яскрава сведчыць аб тым, што паўнавартаснае развіццё нацыі можа забяспечыць толькі ўласная незалежная дзяржаўнасць.**

Лепшыя сыны Беларусі разумелі гэта і змагаліся за аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны. Перад намі стаіць зараз праблема замацавання падараванай нам лёсам дзяржаўнай самастойнасці, а разам з тым захавання самой беларускай нацыі.

Складанасці гістарычнага лёсу не перапынілі этнічнай кансалідацыі нашага народа. **Ён здолеў аформіцца ў самастойную нацыю, якая мае сваю тэрыторыю, мову, культуру, жыве ў адзінай эканамічнай прасторы.** Беларускі этнас вызначаецца адметным нацыянальным характарам, ментальнасцю, іншымі толькі яму ўласцівымі асаблівасцямі, што адрозніваюць яго у сусветнай супольнасці народаў. Найбольш характэрнымі нацыянальнымі рысамі нашага народа з'яўляюцца якасці, якія высока шануюцца ў чалавечым грамадстве: дабрыня, працавітасць, адказнасць, цярплівасць, лагоднасць, агіда да гвалту і жорсткасці, гасціннасць. Аб сутнасці душы беларусаў дае ўяўленне іх схільнасць да светлых колераў адзення, мілагучныя, душэўныя песні, мяккія, гуманныя казкі і легенды, увесь беларускі фальклор. Аднак у складаных сітуацыях беларусы заўсёды праяўлялі незвычайную стойкасць, мужнасць, ваярскую здольнасць абараняць Радзіму, сваю сям'ю і родную хату. Нашы продкі не ўпадалі ў адчай, а мужна і ўparта пераадольвалі цяжкасці, захоўвалі і прадаўжалі жыццё ў самых безнадзейных абставінах. Такія якасці нашага нацыянальнага характару ўратавалі беларускую нацыю ад знішчэння і даюць нам цвёрдую ўпэўненасць, што мы здолеем захавацца ў будучыні.

Істотны ўплыў на фарміраванне нацыянальнага характару беларусаў аказала **рэлігія.** Нашы старажытныя продкі маліліся **язычніцкім** багам. Галоўным язычніцкім богам быў грозны Пярун — бог грому і маланкі, ён лічыўся апекуном вайсковай славы. Шанаваліся таксама Вялес (бог жывёлагадоўлі і багацця), Ярыла (бог вясны і ўрадлівасці), Сотвар (бог сонца), Жыжаль (бог агню). Старажытныя людзі захоўвалі язычніцкія абрады — гуканне вясны, Купалле, пахаванне стралы; прыносілі сваім багам сімвалічныя ахвяры, маліліся каля свяшчэнных камянёў. Ад язычніцтва засталіся ў нас звычкі варажбы, абярогі.

Святло **хрысціянскай веры** прыйшло на нашы землі ў канцы X — пачатку XI ст. Першымі прынялі хрост жыхары Полацкага і Ту-

раўскага княстваў. Яны былі далучаны да хрысціянства святарамі, што прыйшлі з Кіева і былі выхадцамі з Візантыі і Балгарыі. Смаленскае княства прыняло хрысціянства ў пачатку XI ст. У кожным княстве ствараліся асобныя епархіі на чале з епіскапамі. Адной з першых была заснавана ў 992 г. Полацкая епархія. Епіскапы падпарадкоўваліся кіеўскаму мітрапаліту, а праз яго канстанцінопальскаму патрыярху (Візантыя). Побач з усходнім (візантыйскім) абрадам хрысціянства на тэрыторыі Беларусі распаўсюджваўся і заходні (рымскі). Тураўскі князь Святаполк у 1010 г. разам з падданымі прыняў хрышчэнне па заходняму абраду.

У адрозненне ад суседніх земляў хрысціянства распаўсюджвалася ў нас пераважна без прымусу. Гісторыя не захавала фактаў гвалтоўнага насаджэння ў Беларусі хрысціянскай веры. Доўгі час яна мірна ўжывалася тут з глыбокімі язычніцкімі традыцыямі.

Пасля падзелу хрысціянскай царквы ў 1054 г. на дзве канфесіі, праваслаўную і каталіцкую, насельніцтва беларускіх зямель, большасць якога была ахрышчана па ўсходняму абраду, сталася праваслаўнай. Уплыў каталіцтва на нашы тэрыторыі пашырыўся ў канцы XIV ст., пасля заключэння Крэўскай уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчаю. Каталіцкую веру прымала пераважна балцкае насельніцтва. У канцы XIV ст. на тэрыторыі Беларусі існавалі тры каталіцкія парафіі, пазней іх колькасць значна павялічылася. У далейшым каталіцкае веравызнанне прымала і апалячаная беларуская шляхта.

Многія беларусы ў сярэднявеччы далучыліся да руху Рэфармацыі і сталі пратэстантамі. У Беларусі распаўсюдзіліся такія плыні пратэстантызму, як кальвінізм, лютэранства.

У канцы XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім узнікла новая царква — уніяцкая, або грэкакаталіцкая, якая аб'ядноўвала праваслаўных і каталіцкіх вернікаў у адзіную рэлігійную плынь.

Хрысціянства стала пануючай рэлігіяй у Беларусі. Хрысціянская мараль адпавядала сутнасці характару беларусаў і ляжала ў аснове маральных каштоўнасцяў нашага народа. Побач з хрысціянскаю верай у Беларусі мірна ўжываліся і іншыя веравызнанні — мусульманства, іудаізм. Жывучы на мяжы двух светаў — заходняга і ўсходняга, нашы продкі выхоўвалі ў сабе павагу да розных рэлігійных арыентацый, тым самым зберагалі мір і спакой у сваёй дзяржаве. Высакародны дух рэлігійнай талерантнасці быў уласцівы беларусам на працягу ўсёй гісторыі і стаў адметнай рысай нацыянальнага характару.

Мінулае, сучаснае і будучыню беларускай нацыі лучыць наша **нацыянальная мова**, што ўзнікла ў **старажытнасці** і сфарміравалася разам з беларускім этнасам. Беларуская мова належыць да славянскай групы індаеўрапейскай моўнай сям'і. Як у еўрапейскіх народаў, у беларусаў першапачаткова існавала вусная моватворчасць. У X ст. з прыняццем хрысціянства з'явілася пісьмовая мова на стараславянскай аснове, якую заклалі знакамітыя славянскія асветнікі Кірыла і Мяфодзій. Усходні варыянт стараславянскай мовы вядомы, як **царкоўнаславянская** мова, на ёй пісаліся царкоўныя кнігі ў часы Еўфрасінні Полацкай. У свецкіх дакументах выкарыстоўвалася не толькі царкоўнаславянская, але і жывая народная гаворка. Так яшчэ у X—XIII стст. пачала фарміравацца самастойная **старажытнабеларуская** мова. Яна паступова пранікала ў царкоўную літаратуру і выцясняла царкоўнаславянскую мову. Прыкладам гэтага стала выданне Бібліі Францыскам Скарынай; у складзеных ім прадмовах і пасляслоўях паспяхова спалучаліся элементы царкоўнаславянскай мовы і народнай гаворкі. Паслядоўнікі Скарыны Сымон Будны, Васіль Цяпінскі далі народу асобныя рэлігійныя творы ўжо толькі на роднай мове.

Беларуская мова дасягнула росквіту ў Вялікім Княстве Літоўскім, **яна была асноўнай пісьмовай моваю дзяржавы ад самага пачатку яе стварэння ў XIII ст.** У той час многія еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку суседняя Польшча, карысталіся ў дзяржаўных справах агульнай, лацінскай моваю. Па гэтай прычыне беларускую мову можна лічыць адной **з самых старажытных нацыянальных дзяржаўных моваў у Еўропе.** Напрыклад, англійская мова набыла статус дзяржаўнай у XIV ст.(1362г.), а французская — толькі ў 1400 годзе.

Аднак ужыванне беларускай мовы стала звужацца пасля аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Польшчаю ў канфедэрацыю – Рэч Паспалітую (1569г.), дзе ў хуткім часе пачалася паланізацыя. У 1696г. беларуская мова ў справаводстве ВКЛ была заменена на польскую. Пасля далучэння да Расійскай імперыі беларуская мова цалкам была выведзена з пісьмовага ўжытку. Усё гэта прывяло да таго, што старабеларуская пісьмовая мова часоў Вялікага Княства Літоўскага паступова адмерла.

Адраджэнне нацыянальнай пісьмовай мовы было распачата беларускай інтэлігенцыяй у першай чвэрці XIXст. Працэс фарміравання новай літаратурнай мовы расцягнуўся больш чым на стагоддзе. Ён рэзка паскорыўся ў пачатку XX ст., калі пачалі выдавацца ў 1906 г. у Вільні першыя газеты на беларускай мове – "Наша доля" і "Наша Ніва". Адроджаная беларуская мова набыла **дзяржаўнае прызнанне ў час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі,** незалежнасць якой была аб'яўлена ў сакавіку 1918 г.

**Сучасная літаратурная беларуская мова** развівалася на аснове шмат дыялектнай народнай мовы. У 1918г. вядомы дзеяч новага беларускага адраджэння Браніслаў Тарашкевіч унармаваў правілы пісьма і выдаў першую граматыку беларускай мовы. Яна шырока прымянялася ў адукацыі і атрымала ў далейшым назву ў народзе "тарашкевіца". На пачатку 30-ых гадоў, калі ўсталявалася сталінская дыктатура, правапіс Тарашкевіча быў істотна зменены ў накірунку русіфікацыі. У сваёй аснове савецкі правапіс прадаўжае выкарыстоўвацца ў сучаснай Беларусі. "Тарашкевіца" захоўвалася ў Заходняй Беларусі, у асяроддзі беларускай эміграцыі. У самой Беларусі яна ізноў з'явілася ў друку ў час новага беларускага адраджэння. На "тарашкевіцы" выдаецца зараз аднаўленая газета "Наша Ніва", яе выкарыстоўваюць іншыя выданні.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-ых гадоў прывялі да аднаўлення дзяржаўнага статуса беларускай мовы. 26 студзеня 1990г. быў прыняты закон аб мовах, якім наша мова вызначалася **як адзіная дзяржаўная мова ў Беларусі.** Гэты яе статус быў замацаваны ў першай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. Аднак змаганне за адраджэнне сваёй мовы для беларускага народа не скончылася. У выніку рэферэндуму 1995 г. статус дзяржаўнай быў нададзены і рускай мове, гэта дазволіла ўладам ператварыць яе практычна ў адзіную дзяржаўную мову ў Беларусі. Ізноў беларуская мова апынулася перад пагрозаю выцяснення са сваіх родных абшараў. Ізноў мусім змагацца за матчына слова. Будзем памятаць незабыўныя словы Францішка Багушэвіча: **"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".**

***Наш абавязак захавацца як самастойнай этнічнай супольнасці ў новым тысячагоддзі. Будзем верыць, што глыбокія карані нашай мінуўшчыны ўтрымаюць і надалей наша беларускае радаводнае дрэва!***

## *2. ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ*

Галоўным дасягненнем беларускай нацыі на яе гістарычным шляху з'яўляецца **уласная дзяржаўнасць**. Элементы дзяржаўнай арганізаванасці на нашай зямлі, як ужо адзначалася, складваліся ў **першым тысячагоддзі н.э.** Старажытныя племянныя саюзы паступова перараслі ў дзяржаўныя супольнасці — княствы. Найбольш буйным з іх было Полацкае.

Першае летапіснае ўпамінанне пра яго належыць да 980 г.: згадваецца князь Рагвалод, што княжыў у Полацку. **Полацкае княства было першай старажытнай беларускай дзяржаваю** з усімі адпаведнымі атрыбутамі: суверэннай уладаю княжацкай дынастыі і веча, адміністрацыяй, уласным войскам, грашовай сістэмай. Полацкая княжацкая **дынастыя Рагвалодавічаў** запачаткавала радавод беларускіх князёў. У гістарычных дакументах прыгадваецца Рагнеда, дачка Рагвалода, князі Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей. Найвышэйшай магутнасці княства дасягнула ў другой палове XI ст. пры Усяславе Чарадзею. У гэты час у Полацку быў збудаваны велічны Сафійскі сабор, ён сімвалізаваў роўнасць Полацка з Ноўгарадам і Кіевам. Полацкае княства ахоплівала большую частку тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яму належалі землі ўздоўж Дзвіны да Балтыйскага мора, дзе пачынаўся вялікі гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі". Гэта было важнай прычынаю эканамічнага і палітычнага росквіту княства.

Значнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Беларусі ў той час былі **Тураўскае і Смаленскае княствы, потым Менскае, Гарадзенскае, Наваградскае, Пінскае, Віцебскае, Друцкае і інш.**

У сярэдзіне XIII ст. Полацкае княства страціла сваю значнасць як цэнтр палітычнага жыцця на беларускіх землях. Падзеі, што адбываліся на пачатку XIII ст., ускладнілі далейшае развіццё нашай старажытнай дзяржавы. У 1201 г. немцамі ў вусці Дзвіны была заснавана Рыга, а праз год тут узнік ордэн мечаносцаў (Лівонскі ордэн). Усё гэта стварыла непасрэдную пагрозу для Полацка, прывяло да страты выхаду да мора, адмоўна паўплывала на эканамічнае жыццё княства.

У гэты час знешняя небяспека навісла над усімі абшарамі будучай Беларусі. З поўначы і захаду пагрозу стваралі Лівонскі і Тэўтонскі крыжацкія ордэны, з поўдня і ўсходу — мангола-татарскія орды. У такіх умовах на беларускіх землях пачынае выдзяляцца новы палітычны цэнтр у рэгіёне Верхняга і Сярэдняга Панямоння, дзе на той час існавалі балцкія племянныя аб'яднанні і славянскія гарады-дзяржавы: Навагародак, Гародня, Слонім, Ваўкавыск. Славянскае і балцкае насельніцтва жыло тут уперамешку, "плямамі". Мірнае суіснаванне славянаў і балтаў, іх супрацоўніцтва былі важнымі прычынамі эканамічнага і культурнага росквіту рэгіёна, найперш гарадоў. Спрыяла

паспяховаму развіццю выгаднае геаграфічнае становішча, што рабіла гэтую тэрыторыю самай бяспечнай, да яе не даходзілі крыжакі і мангола-татары. У XIII ст. за рэгіёнам замацавалася назва Літва, яна паходзіла ад аднайменнай назвы буйнога балцкага племяннога аб'яднання. Менавіта гэтыя землі і сталі месцам нараджэння новай славяна-балцкай дзяржавы — **Вялікага Княства Літоўскага**.

Непасрэдным штуршком да развіцця працэсу дзяржаваўтварэння стала знешняя небяспека з боку крыжакоў і мангола-татараў, якая прымусіла жыхароў гэтых заможных земляў дбаць пра самазахаванне. Ініцыятыву заснавання новай дзяржавы, што аб'ядноўвала славянскія і балцкія землі ў адзінае цэлае і стала моцнай перашкодаю на шляху заваёўнікаў, узялі на сябе феадалы найбольш развітога тагачаснага славянскага горада Новагародка (цяпер Навагрудак). Прыкладна ў 1248 г. яны заключылі саюз з адным з найбольш уплывовых балцкіх князёў — Міндоўгам. Міндоўг быў запрошаны на пасад новагародскага князя і, будучы язычнікам, прыняў хрысціянства.

Першым крокам у збіранні земляў вакол **Новагародка**, які адразу вылучыўся **як палітычны цэнтр і першая сталіца** новай дзяржавы, стала заваёва і далучэнне да яго балцкіх і славянскіх земляў у цэнтральнай і паўночна-ўсходняй Беларусі. У 1253 г. **Міндоўг** са згоды Папы Рымскага прыняў каралеўскі тытул і стаў вялікім князем. Значных поспехаў у будаўніцтве дзяржавы дасягнуў яго сын **Войшалк**.

У Вялікім Княстве Літоўскім была прынята **славянская сістэма дзяржаўнай арганізацыі**, яна зыходзіла ад новагародскай сістэмы грамадскага ўпарадкавання. Славянская частка ВКЛ значна пераважала балцкую і была больш развітою ў сацыяльна-эканамічным і культурным плане. Балты ў той час яшчэ нават не мелі свайго пісьменства. **Старабеларуская мова** славянскага насельніцтва **стала дзяржаўнай моваю** ВКЛ. Беларуская культура дамінавала. Прадаўжалася славянізацыя мясцовых балтаў, яны пачалі ўжываць беларускую мову і на побытавым узроўні. Славянская перавага была канчаткова замацавана пасля далучэння да ВКЛ Полацкага княства ў 1307г.

На пачатку XIVст. пазіцыі ВКЛ значна ўмацаваліся. Спрыяла гэтаму палітыка забеспячэння адзінства дзяржавы, якую праводзіў вялікі князь **Віцень**. Пры наступных вялікіх князях, **Гедыміне і Альгердзе,** Вялікае Княства Літоўскае стала магутнай еўрапейскай дзяржавай. **Яго тэрыторыя прасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мораў, ад Берасцейшчыны да вярхоўяў Акі**. Пераважную частку ВКЛ складалі славянскія землі, балцкія землі займалі 1/5 частку ўсёй плошчы.

У 1323 г. князь Гедымін перанёс сталіцу спачатку ў **Трокі**, а потым ў **Вільню**, якая засталася палітычным цэнтрам ВКЛ да канца яго існавання. Вільня была заснавана славянамі-крывічамі, што з'явіліся на гэтых землях у VI—VII ст. н.э. У XI ст. Вільня згадваецца як паселішча крывічоў пад назваю Крывы (Крывіч)-горад. У другой палове XI ст. горад стаў цэнтрам Віленскага княства, на тэрыторыі якога жылі славяне і балты. Доўгі час пасля знікнення ВКЛ для беларусаў Вільня заставалася цэнтрам палітычнага і культурнага жыцця. У кастрычніку 1939г. Вільня была перададзена Сталіным нашай суседцы — Літве і застаецца сталіцаю гэтай краіны.

Для адпору агрэсіі крыжакоў у 1385 г. ВКЛ заключыла **Крэўскую унію** (саюз) з суседняю Польшчаю. Вялікі князь ВКЛ **Ягайла** ў адпаведнасці з дамоваю ажаніўся з польскай каралеваю Ядвігай і стаў каралём Польшчы. Быў закладзены пачатак знакамітай у гісторыі Еўропы каралеўскай дынастыі Ягелонаў.З боку Польшчы адразу былі зроблены спробы падпарадкаваць сабе ВКЛ.

Аднавіў самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, амаль страчаную ва ўмовах Крэўскай уніі, пасля працяглай барацьбы з Ягайлам вялікі князь **Вітаўт**. У гады яго княжання (1392—1430) ВКЛ дасягнула найбольшага росквіту. У 1422 г. да ВКЛ была канчаткова далучана Жамойція (гістарычная тэрыторыя сучаснай Літвы). Вітаўт Вялікі ўстанавіў дыпламатычныя адносіны з усімі заходнееўрапейскімі краінамі, з Крымскім ханствам, Асманскай імперыяй (Турцыяй), Масковіяй. У сярэдзіне XV ст. адпаведна змянілася і сама назва дзяржавы, яна стала **Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім**.

Наступныя князі ВКЛ — **Казімір, Жыгімонт Стары, Стэфан Баторый** і інш. — прадаўжалі дзяржаўнае будаўніцтва, але гістарычныя ўмовы не заўсёды былі спрыяльнымі для гэтага і Княства часам страчвала свае тэрыторыі.

Вялікае Княства Літоўскае было поліэтнічнай краінай. Асноўную частку яго складалі **беларусы і балты**, жылі таксама **украінцы, палякі**. У канцы XIV ст. на Беларусі з'явіліся **татары**, іх запрасіў на вайсковую службу князь Вітаўт. У XVI ст. татары перайшлі на беларускую мову, пісалі на ёй святыя кнігі арабскім пісьмом. У канцы XIV ст. у ВКЛ пачалі сяліцца **габрэі** з краінаў Заходняй Еўропы, хутка яны пачалі займаць прыкметнае месца ў этнічнай структуры, гаспадарчым і культурным жыцці ВКЛ. На нашыя землі ўцякалі ад пераследаванняў маскоўскія **стараверы**, імі быў заснаваны горад Ветка на Гомельшчыне. Усе жыхары ВКЛ з гонарам называлі сябе ліцвінамі.

Адметнай рысаю беларусаў-ліцвінаў з'яўляўся дэмакратызм, закладзены яшчэ ў вечавых традыцыях Полацкага княства часоў Рагвалода і Усяслава Чарадзея і прынесены ў ВКЛ пасля далучэння да яго Полацка. Дэмакратызм фарміраваў дух свабоды, маральныя і праўныя ўяўленні пра незалежнасць, разуменне каштоўнасці чалавечай асобы. Менавіта такія прынцыпы і былі закладзены ў галоўныя заканадаўчыя дакументы Княства, найперш у Звод законаў — **Статут Вялікага Княства Літоўскага**. Вядомы тры рэдакцыі **Статута: 1529, 1566, 1588 гг.** Стваральнікам найбольш дасканалага, **трэцяга Статута** быў знакаміты палітычны дзеяч сярэднявечнай Беларусі, **вялікі канцлер ВКЛ Леў Сапега**. Трэці Статут дзейнічаў на працягу 250 гадоў, да 1840 г. Ён выкарыстоўваўся ў якасці ўзору ў іншых краінах для распрацоўкі ўласнага заканадаўства і дзеля таго быў перакладзены на польскую, рускую, нямецкую мовы. Статут быў **першым** у Еўропе зводам законаў, падрыхтаваным **на аснове мясцовага права.** Ён быў напісаны на зразумелай народу **беларускай мове.** Як вядома, у Еўропе ў той час многія краіны ў значнай ступені карысталіся рымскім правам, асновы якога былі выкладзены лацінскай мовай. **Усё дзяржаўнае справаводства** ВКЛ вялося на **беларускай мове**, аб чым яскрава сведчаць дакументы архіва Княства, які мае назву **Метрыка ВКЛ**. Гэты збор складае каля 600 тамоў справаводства вялікакняскай канцылярыі на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Метрыка ВКЛ вывезена ў Расію, захоўваецца цяпер у Маскве.



*Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега.*

Статут заклаў у нашай краіне асновы прававой дзяржавы, дзе панаваў закон, а не ўласная воля валадара. Ужо ў першым Статуце (1529 г.) прадугледжвалася, што ўсе жыхары ВКЛ павінны былі судзіцца адным гэтым правам. Паводле другога Статута (1566 г.), усе паны, шляхта, баяры, мяшчане і простыя людзі абвяшчаліся паўнапраўнымі грамадзянамі. Прадугледжвалася абмежаванне ўлады вялікага князя праз такія інстытуты дзяржаўнасці, як Сойм і Рада. Быў закладзены **падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую**. Статут ВКЛ быў **самы прагрэсіўны** ў Еўропе і па праву лічыцца ў свеце класічным узорам заканадаўства эпохі сярэднявечча.

Заканадаўчыя дакументы ВКЛ адлюстроўвалі сацыяльны склад грамадства. Асноўнымі сацыяльнымі катэгорыямі грамадзян ВКЛ былі сялянства, мяшчанскае саслоўе і шляхта. Кіраўніцкую і арганізацыйную ролю ў дзяржаве выконвала шляхецкае саслоўе. Шляхта выбірала караля, удзельнічала ў кіраўніцтве дзяржаваю, несла на сабе асноўны цяжар справы абароны Айчыны, развівала культуру і асвету краіны. Найбольш вядомымі беларускімі шляхецкімі родамі былі Агінскія, Алелькавічы, Астрожскія, Гальшанскія, Гаштольды, Друцкія, Кішкі, Сапегі, Солтаны, Пацы, Тышкевічы, Хадкевічы, Чартарыйскія. Беларуская шляхта падтрымлівала сувязі з еўрапейскім дваранствам, удзельнічала ў рыцарскіх турнірах у Еўропе. Прадстаўнік роду Солтанаў у канцы XVст. атрымаў бургундскі ордэн Залатога Руна, самую высокую ўзнагароду таго часу, якая давалася толькі за вялізныя заслугі, атрымаць яе марылі многія еўрапейскія дваране.

Вялікае Княства Літоўскае мела ўласную дзяржаўную сімволіку, яна была звязана з гістарычным лёсам краіны і ўвабрала ў сябе адметнасць беларускай зямлі і яе насельніцтва. **Дзяржаўным гербам ВКЛ у 1295 г. стаў герб Навагрудка і Полацка — "Пагоня".** Узброены вершнік, які сімвалізаваў вобраз абаронцы нашай дзяржавы, спачатку ўжываўся як вайсковы знак. Першым "Пагоню" выка-





рыстаў вялікі князь Віцень. **На пачатку XVI ст. з'явілася бел-чырвона-белая харугва, якая стала правобразам нашага дзяржаўнага нацыянальнага сцяга**. Найбольш ранняя выява яе ёсць на карціне, прысвечанай бітве з маскоўскімі войскамі пад Оршаю ў 1514 г., што захоўваецца ў музеі ў Варшаве. Дзяржаўная сімволіка ВКЛ знікла разам са знікненнем самога ВКЛ. Яна была адроджана ў другой палове XIXст. паўстанцамі Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўнымі сімваламі "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг сталі зноў пры абвяшчэнні ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а потым у 1991г., калі была абвешчана незалежная Рэспубліка Беларусь. Аднак у 1995г. нашы гістарычныя сімвалы ізноў былі адменены, замест іх вернуты па сутнасці савецкія сімвалы, якія не маюць пад сабой гістарычнай глебы.

ВКЛ стварыла і сваю цвёрдую **эканамічную аснову**, мела незалежную грашовую сістэму. Галоўная роля ў эканамічным жыцці ВКЛ належала сельскай гаспадарцы. Аснову яе складалі буйныя феадальныя гаспадаркі – фальваркі, дзе вырошчваліся жыта, пшаніца, авёс, бабовыя культуры, гароднiна, лён, канапля. Развівалася паляўніцтва, рыбалоўства, бортніцтва. Існавалі промыслы: лесахімічны (гналі дзёгаць, смалу), вытворчасць шкла, вінакурэнне, ганчарства, гарбарніцтва, мылаварэнне, будаўнічая вытворчасць, дрэваапрацоўка, апрацоўка каменю і інш. У XIV ст. у гарадах і мястэчках налічвалася каля 200 рамесніцкіх спецыяльнасцяў.

Важнае месца займаў гандаль. Праз Беларусь праходзілі асноўныя гандлёвыя шляхі, гэта ўдала скарыстоўвалася дзеля эканамічных інтарэсаў Княства. ВКЛ гандлявала сельскагаспадарчымі прадуктамі з многімі краінамі Захаду. Асноўную ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі кірмашы, якія ладзіліся ў гарадах і мястэчках. З другой паловы XVIII ст. пачаўся новы перыяд у эканамічным жыцці ВКЛ. Феадальныя адносіны паступова замяняліся капіталістычнымі. Пачала развівацца таварна-грашовая сістэма, сельскагаспадарчая вытворчасць набывала таварны характар. Развівалася спецыялізацыя гаспадарак і рэгіёнаў, будаваліся мануфактуры.

У эканамічным жыцці ВКЛ шырока ўжывалася з боку дзяржавы сістэма заахвочванняў землеўладальнікаў у павелічэнні эфектыўнасці іх гаспадарак, выкарыстоўваліся розныя льготы, гнуткае падаткаабкладанне, што дапамагала пераадольваць эканамічныя заняпады, якія прыносілі войны і іншыя неспрыяльныя абставіны.

Самым распаўсюджаным тыпам паселішчаў у ВКЛ былі вёскі, але развіваліся і гарады. У XIII—XIVстст. на тэрыторыі, адпаведнай сучаснай Беларусі, было каля 40 гарадоў. У сярэдзіне XVII ст. існавала 42 гарады і 425 мястэчак. Асабліва хутка развіваліся беларускія гарады, што атрымалі Магдэбургскае права. Усталяванае там гарадское самакіраванне стварала найлепшыя ўмовы для іх жыццядзейнасці. Першай Магдэбургскае права атрымала Вільня (1387 г.).

Гісторыя ўтварэння і фарміравання Вялікага Княства Літоўскага, выкладзеная на падставе ранейшых і апошніх навуковых даследаванняў незалежных гісторыкаў, сведчыць пра недакладнасць канцэпцыі, якая раней панавала ў гістарычнай навуцы. Сутнасць яе заключалася ў тым, што ВКЛ было нібыта створана толькі балцкімі плямёнамі, якія завявалі абшары "ад мора да мора" і займелі такім чынам вялізную балцкую дзяржаву. Гэтая канцэпцыя была адназначна прынята артадаксальнымі гісторыкамі савецкай Беларусі, якія не праводзілі самастойных навуковых даследаванняў, а ў інтарэсах савецкай імперыі павінны былі таксама сцвярджаць, што беларусы ніколі не былі самастойным народам. Прымалася раней яна і ў Літве. Менавіта сучасная Літоўская Рэспубліка (Lietuva) выступае сёння адзінай па назве пераемніцай Вялікага Княства Літоўскага на падставе таго, што яе гістарычныя тэрыторыі ўваходзілі ў склад ВКЛ. Нашы суседзі яшчэ ў 1918 г., падчас абвяшчэння на гэтых землях незалежнай дзяржавы, паклапаціліся пра адпаведную назву новай краіны, якая б сведчыла пра яе гістарычнае мінулае. Літоўская Рэспубліка ўзяла таксама за аснову свайго дзяржаўнага герба "Пагоню", яна ў нязначна змененым варыянце носіць цяпер назву "Віціс".

Сёння паміж беларускімі і літоўскімі гісторыкамі знойдзена паразуменне ў канцэптуальных аспектах гісторыі паходжання ВКЛ. На навуковай сустрэчы ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёна Беларусі 19—20 чэрвеня 1992г. былі выпрацаваны агульныя падыходы да вывучэння гісторыі ВКЛ. Гісторыкі дамовіліся, што "ВКЛ можна вызначыць як літоўска-беларускую, ці — раўназначна — як беларуска-літоўскую дзяржаву", у развіццё якой зрабілі значны ўклад і іншыя народы.

Стварэнне ВКЛ мела **лёсаноснае** значэнне ў гісторыі беларускай нацыі. Калі б не было гэтай магутнай дзяржавы, калі б не было еднасці і адвагі яе народа, калі б не было самаахвярнай адданасці нашых продкаў роднай Бацькаўшчыне, не ўстаялі б яны супраць двухсотгадовай крыжацкай экспансіі, супраць мангола-татарскай навалы, як не выстаялі перад ёю ўсходнія суседзі і на доўгія часы трапілі ў няволю. У гэтым рэгіёне Еўропы быў прыпынены наступ мангола-татарскіх ордаў на Захад, таму заходнееўрапейскія народы не зведалі жорсткасці гэтых заваёўнікаў.

Захаваліся звесткі пра пераможныя бітвы беларускіх ваяроў з мангола-татарамі. У 1362г. войскі ВКЛ на чале з князем Альгердам разграмілі аб'яднаныя войскі трох татарскіх ханаў каля Сініх Водаў і вызвалілі ўкраінскія землі ад мангола-татарскага прыгнёту. У 1506 г. у бітве на р. Лань пад Клецкам войскі Княства пад кіраўніцтвам Глінскага разбілі 30-тысячнае татарскае войска.

Крыжацкі наступ на нашу Бацькаўшчыну быў спынены ў 1410 г. бліскучаю перамогаю пад Грунвальдам. У Грунвальдскай бітве ўдзельнічалі аб'яднаныя ў выніку падпісання Крэўскай уніі войскі ВКЛ на чале з вялікім князем Вітаўтам і войскі Польскага Каралеўства на чале з польскім каралём беларускага паходжання Ягайлам. Армія Тэўтонскага ордэна, мацнейшая у Еўропе, была нашчэнт разбіта. Пяць стагоддзяў пасля Грунвальда ніводны ўзброены немец не ступаў на беларускія землі і землі нашых усходніх суседзяў.

У канцы XV ст. новая небяспека для нашай краіны паўстала на ўсходзе. Вялікае Княства Літоўскае вымушана было ваяваць з Маскоўскай дзяржаваю. У 1480 г. Масковія канчаткова вызвалілася ад татара-манголаў і пачала наступ на захад, імкнучыся захапіць суседнія беларускія землі. Маскоўскі вялікі князь Іван III прыпісваў сабе ролю збіральніка ўсіх праваслаўных зямель Усходняй Еўропы, такой палітыкі прытрымліваліся і ўсе наступныя расійскія цары.

Першая вайна паміж ВКЛ і Масковіяй разгарэлася ў **1492—94 гг**. У выніку наша краіна страціла Вяземскае княства і іншыя землі.

Падчас новай вайны з Масковіяй, у **1500—1503 гг.**, былі спустошаны нашы землі каля Смаленска, Оршы, Мсціслава, Полацка, Віцебска, ВКЛ страціла 29 гарадоў і 70 валасцяў.

Усходнія, паўднёвыя і цэнтральныя часткі ВКЛ моцна пацярпелі ад маскоўскай экспансіі ў **1507—1508 гг**.

Вялікія страты панесла наша краіна падчас наступнай вайны з Масковіяй, у **1512—1522 гг.**, калі ў 1514 г. быў захоплены Смаленск. Навалу з усходу на некаторы час перапыніла бліскучая перамога ў гэтым жа 1514 г. у бітве пад Оршай 30-тысячнага войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з гетманам найвышэйшым Канстанцінам Астрожскім над 80-тысячным маскоўскім войскам.

У **1534—1537 гг**. наша краіна перажыла чарговы наступ маскоўскіх войскаў. Былі спалены Тураў, Мазыр, Брагін і іншыя гарады.

У **1562 г.** войскі Івана IV Жахлівага спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска, Магілёва, а праз год сам цар з 60-тысячным войскам аблажыў Полацак. Пад акупацыяй маскавітаў апынулася амаль уся Паўночная Беларусь. Акупанты нішчылі занятыя паселішчы, выводзілі ў палон насельніцтва. Адметнай старонкаю гэтай вайны стала бітва на рацэ Ула 26 студзеня 1564 г., у якой войскі ВКЛ атрымалі бліскучую перамогу над маскоўскімі захопнікамі.

Агрэсія з усходу стала галоўнай прычынай таго, што Вялікае Княства Літоўскае вымушана было аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. У 1569г. у выніку падпісання **Люблінскай уніі** была створана новая канфедэратыўная дзяржава — **Рэч Паспалітая**. На жаль, у выніку гэтага аб'яднання ВКЛ страціла землі Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны, якія адышлі да Польшчы.

Дзяржаўнае аб'яднанне Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы стварыла ўмовы і для царкоўнай уніі. Як вядома, галоўнай рэлігіяй ВКЛ было праваслаўе, а Польскага каралеўства — каталіцызм. ВКЛ у 1596 г. пайшло на заключэнне **Берасцейскай уніі**, якая адкрывала дарогу да аб'яднання дзвюх хрысціянскіх канфесій — праваслаўя і каталіцтва ў адну рэлігію, якая атрымала назву уніяцкай. Валадары Княства імкнуліся такім чынам забяспечыць рэлігійнае адзінства нацыі. Новая рэлігія месцамі ўсталёўвалася з цяжкасцямі. Аднак у канцы XVIII ст. уніятамі былі ўжо 75% насельніцтва краіны. Адной з важных прычын шырокага распаўсюджання уніяцтва было выкарыстанне ў набажэнстве зразумелай народу роднай беларускай мовы. Унію скасавалі расійскія ўлады ў 1839 г. Уніяцкая царква пазней была адроджаная беларускай інтэлігенцыяй, і сёння ў Беларусі дзейнічае гэтая канфесія.

Стварэнне канфедэрацыі ВКЛ і Польшчы спрыяла ўмацаванню абараназдольнасці абедзвюх краінаў. У ліпені **1579 г.** войскі вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя вызвалілі захопленыя раней Маскоўскай дзяржаваю Полацак, Веліж, Невель і інш.

У выніку новай вайны з Масковіяй, **1609—1618 гг.**, да ВКЛ адышлі Смаленская, Чарнігаўская, Ноўгарад-Северская землі.

На пачатку XVII ст. Рэч Паспалітая вяла войны са Швецыяй. У **1605 г.** яе войскі на чале з Янам Хадкевічам разбілі шведаў у Кірхгольмскай бітве, а ў **1609 г.** — пад Рыгаю.

У **1632—1634 гг**. адбывалася так званая "Смаленская вайна", калі Масковія зноў спра-

бавала захапіць Смаленскія землі (па Палянаўскай дамове яны засталіся ў складзе ВКЛ).

У **1648—1651 гг**. Рэчы Паспалітай давялося вясці цяжкія ваенныя дзеянні на паўднёвых межах супроць паўстання украінскіх казацкіх загонаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага, якія падтрымліваліся Масковіяй і хацелі захапіць усходне-паўднёвыя землі Беларусі.

Сапраўдным жудасным выпрабаваннем для нашага народа стала агрэсія маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча "Тишайшего" ў **1654 — 67 гг**. Трынаццаць гадоў без перадыху сціраліся з твару зямлі беларускія гарады, крэпасці, замкі, палацы, вёскі разам з насельніцтвам. Ад рук захопнікаў, голаду, холаду, эпідэмій загінула 46% насельніцтва ВКЛ, а на землях сучаснай Беларусі было знішчана **53%** жыхароў. Ніводная з суседніх з Беларуссю краінаў ніколі не пераносіла такой дэмаграфічнай катастрофы. Абаронцы Бацькаўшчыны пакінулі трагічны запіс: "Да таго дайшла Айчына наша, што, ратуючыся, загіне".

Беларусь стала арэнаю ваенных дзеянняў і ў час Паўночнай вайны **1700—1721 гг.** паміж Расіяй і Швецыяй. Рэч Паспалітая выступала ў якасці саюзніка расійскага імператара Пятра І, які першым з ваенных "геніяў" прымяніў на Беларусі тактыку выпаленай зямлі перад наступаючым непрыяцелем. У выніку — загінуў кожны трэці беларус. У час гэтай вайны быў узарваны Полацкі Сафійскі сабор.

Ваенная разруха была не адзінай небяспекай для Вялікага Княства Літоўскага. Паступова нарасталі і ўнутраныя праблемы. У канфедэрацыі з Польскай Каронай ВКЛ пераставала жыць сваім асобным жыццём, адчынілася дарога для польскага ўплыву. Польскі змест жыцця ўсё больш стаў уваходзіць у лад жыцця Беларусі і пачаў пераважаць. Найперш паланізацыі паддаліся беларускія магнаты і шляхта, многія перайшлі ў каталіцкую веру. Працэс рэлігійнага, а пасля і поўнага аддзялення беларускай эліты ад свайго народа сыграў драматычную ролю ў далейшай гісторыі нацыі. Страта для нацыянальнага жыцця найбольш адукаванай часткі народа аслабіла яго жыццёвы патэнцыял. Беларуская мова выцяснялася з дзяржаўнага і магнацкага справаводства. У 1696г. Канфедэратыўны Сойм Рэчы Паспалітай наогул вынес пастанову, што дзяржаўныя дакументы ў ВКЛ павінны складацца не на беларускай, а на польскай мове.

Беспрапынныя войны, эканамічны заняпад, парушэнне балансу раўнапраўнага існавання двух суб'ектаў канфедэрацыі, несупадзенне палітычных інтарэсаў Княства і Каралеўства прывялі да аслаблення канфедэратыўнай дзяржавы. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, 1772,1793,1795 гг., паміж больш моцнымі на той час суседзямі — Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй — канфедэрацыя перастала існаваць. Землі Вялікага Княства Літоўскага адышлі да Расійскай імперыі. **Дзяржаўная самастойнасць беларусаў была ўпершыню цалкам страчана на два стагоддзі.**

Лепшыя сыны беларускага народа змагаліся за аднаўленне незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны ў шматлікіх паўстаннях, якія былі жорстка задушаны ўладамі. З дапамогай А.Суворава "просвещённая" расійская імператрыца Кацярына II утапіла ў крыві нацыянальна-вызвольнае паўстанне **1794 г. на чале з Тадэвушам Касцюшкам.** Ахвяры нашы засталіся непадлічанымі, бо былі незлічонымі.

Пасля вызвольнага паўстання **1830—1831 гг.** па загаду расійскага імператара Мікалая I пачалася жорсткая русіфікацыя краю. Беларускія землі сталі правінцыяй Расійскай імперыі — "Северо-Западным краем". Каб замірыць "Северо-Западный край", насаджалася рускае чынавенства, руская школа, праваслаўная царква. Гэтая трыяда прымусіла паднявольных беларусаў змірыцца з навязанаю ім думкаю, што іх краіна нібыта добраахвотна ўвайшла ў склад "брацкай Русі".

Вайна Расіі з Напалеонам у **1812 г.** каштавала жыцця кожнаму чацвёртаму жыхару Беларусі, зноў наша зямля стала арэнай вядзення чужой нам вайны.

Імператар Аляксандр II разам з генералам-вешальнікам Мураўёвым жорстка разграмілі ў **1863—1864 гг**. **паўстанне шляхты, мяшчан і сялян-касінераў на чале з Кастусём Каліноўскім**. Расійскі высокапастаўлены чыноўнік-шавініст, апякун Віленскай вучэбнай акругі Карнілаў выказаў тады жахлівую думку: рускія школы і адукацыя могуць зрабіць на Беларусі тое, чаго не зробяць салдаты штыком і куляй. Прароцтва было блізкае да здзяйснення.

Новыя ўлады падпарадкоўвалі сваім інтарэсам і эканамічны патэнцыял нашых зямель, стваралі гаспадарчую апору для расійскага панавання. Расійскія цары шырока раздавалі сваім генералам і чыноўнікам беларускія землі разам з сялянамі. Усяго было падаравана каля 210 тыс. беларускіх сялян мужчынскага полу. Канфіскаваліся маёнткі беларускай шляхты, якая не жадала служыць расійскім уладам. Была ўведзена і расійская сістэма падаткаў, яна аказалася значна цяжэйшай і не стымулявала развіццё гаспадаркі. У выніку такой драпежніцкай палітыкі гаспадарцы беларускіх зямель былі нанесены непапраўныя страты. Нашы землі зведалі на сабе ўсе праблемы эканамічнага жыцця, якія перажывала Расійская імперыя ў XIXст.,: крызіс феадальна-прыгонніцкага ладу, развіццё па расійскаму ўзору капіталістычных адносінаў, эканамічныя крызісы і масавае збядненне насельніцтва. Беларускія землі ператварыліся ў глыбокую правінцыю вялікай імперыі, якая не клапацілася пра іх належны эканамічны стан. Развіццё прамысловасці, будаўніцтва чыгункі, пераход ад ручной да машыннай вытворчасці не маглі істотна палепшыць цяжкага эканамічнага становішча насельніцтва. Нашы суродзічы вымушаны былі пакідаць Бацькаўшчыну і шукаць магчымасці зарабіць кавалак хлеба на чужыне. 500 тыс. беларускіх сялян ад'ехалі ў канцы XIX ст. ў Сібір, дзе сёння жывуць яшчэ цэлыя беларускія вёскі. Насельніцтва нашага краю адчувала на сабе вялікі палітычны і культурны ўціск.

**Насуперак палітыцы расійскага царызму наш народ здолеў абудзіцца да нацыянальнага жыцця**. Беларускае слова загучала ў творах Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і іншых прадстаўнікоў нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Беларусы побач з расійскімі змагарамі супроць царскага дэспатызму ўдзельнічалі ў народніцкім руху. Адзін з іх, Ігнат Грынявіцкі, родам з-пад Бабруйска, здзейсніў у 1881 г. замах на расійскага цара Аляксандра II. Паплечнікі Грынявіцкага ад імя беларускай фракцыі Народнай волі ў 1884г. выдалі два нумары нацыянальнага часопіса "Гоман", дзе ўпершыню тэарэтычна абгрунтавалі існаванне ў Расійскай імперыі самастойнага беларускага этнасу, заявілі аб роўнасці яго з іншымі народамі, праве на ўласную дзяржаўнасць.

У канцы XIX ст. беларускі рэвалюцыйна-дэмакратычны і адраджэнскі рух набраў сілы. Новы этап беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага і адраджэнскага руху разгарнуўся напярэдадні і ў час рэвалюцыі 1905—1907гг. Ён ахопліваў даволі шырокія слаі насельніцтва. Зімою 1902—1903 гг. братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Алаізай Пашкевіч і інш. была створана **першая беларуская палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада**. У верасні 1906 г. у Вільні выйшла першая беларуская газета **"Наша доля"**, якая была хутка закрыта ўладамі. Але ў лістападзе 1906 г. пачала выходзіць яе пераемніца — газета **"Наша Ніва"**, лёс наканаваў ёй існаваць да жніўня 1915 г. і стаць сапраўднай абуджальніцай беларусаў. "Наша Ніва" згуртавала вакол сябе нацыянальныя сілы беларускага народа, падрыхтавала глебу для новага ўздыму беларускага Адраджэння. Гэты працэс быў паскораны важнымі падзеямі, што адбываліся тады ў свеце.

Першая сусветная вайна 1914—1918 гг., змаганне ў ёй Германіі і Расіі разгарнуліся на беларускай зямлі. Вайна абышлася нам у **1,2 млн**. жыццяў, загінуў кожны пяты. **1,5 млн**. жыхароў Беларусі па волі расійскага самаўладства былі выгнаны са сваіх хатаў, зведалі бежанства ў глыбіні Расіі, а з ім і многа гора на чужыне.

Паражэнне ў вайне прывяло да краху расійскага самаўладства ў лютым 1917 г. Для нашай спакутаванай Бацькаўшчыны адкрылася перспектыва адраджэння ўласнай дзяржаўнасці.

Кульмінацыйным момантам у барацьбе за дзяржаўнасць Беларусі стаў першы **Усебеларускі Кангрэс (з'езд) у Мінску ў снежні 1917г.,** арганізаваны пры вядучай ролі Беларускай сацыялістычнай грамады. У яго працы ўдзельнічалі 1872 дэлегаты з усіх рэгіёнаў Беларусі, яны прадстаўлялі сялян, рабочых, вайскоўцаў, бежанцаў, інтэлігенцыю. Кангрэс паспеў прыняць толькі першы праект пастановы пра самавызначэнне Беларусі ў складзе Расійскай Федэрацыі і часовай краёвай уладзе ў асобе Усебеларускага савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У час прыняцця гэтага лёсаноснага для нацыі рашэння — у ноч з 17 на 18 снежня 1917 г. — з'езд быў разагнаны кіраўнікамі мясцовай бальшавіцкай улады пры дапамозе вайсковай сілы. Але абраныя Рада і Выканаўчы камітэт прадоўжылі дзейнасць і сталі адзінымі абаронцамі інтарэсаў беларускага народа. У лютым—сакавіку 1918 г. Рада была ператворана ў парламент — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР пад назвай Народны Сакратарыят. **25 сакавіка 1918 г. Рада БНР выдала 3-юю Устаўную грамату, Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржаваю.** У гэтым дзяржаўным Акце гаварылася аб тым, што БНР "павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ", згадваліся землі Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны, Віленшчыны, Беласточчыны. Дата абвяшчэння БНР назаўсёды стала гістарычнай для нашага народа і штогод адзначаецца ўсімі свядомымі беларусамі як найвялікшае свята. Залатымі літарамі павінны быць унесены ў гісторыю Беларусі імёны дзеячаў БНР, чыя дзейнасць падрыхтавала з'яўленне Акта 25 Сакавіка: Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Варонка, Алесь Бурбіс, Аркадзь Смоліч, Кастусь Езавітаў і многія іншыя. Раду БНР у розныя часы ўзначальвалі Іван Серада, Пётр Крэчэўскі,

Васіль Захарка, Мікола Абрамчык, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Сажыч. Цяпер Старшынёй Рады БНР з'яўляецца Івонка Сурвіла, якая жыве ў Канадзе.

Замацаваць беларускую незалежнасць у той час не ўдалося. З усходу на Беларусь наступала Чырвоная армія, з захаду — польскія войскі. Большая частка Беларусі аказалася захопленаю бальшавікамі. Рада БНР мусіла была выехаць з Мінска ў Гародню, а потым у эміграцыю: спачатку ў Літву, далей (з 1923 па 1943г.) знаходзілася ў Празе, пасля ў Парыжы, ЗША, Канадзе. Увесь гэты час Рада БНР у замежжы захоўвала ідэю незалежнасці Беларусі.

Ліквідацыя БНР бальшавікамі выклікала супраціўленне з боку беларускага народа. У абарону БНР восенню 1920г. выступілі **Слуцкія паўстанцы**, змаганне якіх стала гераічнай старонкай гісторыі Беларусі. Імёны іх таксама нельга забываць: Уладзімір Пракулевіч, Ахрэм Гаўрыловіч, Павел Жаўрыд, Антон Сокал-Кутылоўскі, Юрка Лістапад...

Перамога бальшавікоў не магла зліквідаваць уплыў БНР на далейшае развіццё Беларусі. Новыя ўлады вымушаны былі лічыцца з беларускім нацыянальным рухам, асабліва з той яго часткаю, якая падтрымала савецкую ўладу з надзеяю на ажыццяўленне ідэалаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Менавіта ў выніку намаганняў беларускіх дзеячаў Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча, Усевалада Ігнатоўскага і інш. **1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь**, якая ў далейшым стала Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР). У 1922 г. яна выступіла адным з сузаснавальнікаў СССР. Рэспубліка ўключала этнічныя беларускія землі, але ў далейшым не па сваёй волі страціла шмат сваіх тэрыторый.

Нашу Бацькаўшчыну дзялілі ў сакавіку 1918г. пры падпісанні Берасцейскай дамовы паміж Расіяй і Германіяй, у 1920г. пры падпісанні дамоваў Расіі з Літвою і Латвіяй. Сапраўднай драмай для беларускага народа сталіся вынікі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. паміж Расіяй і Польшчай, у выніку якога Заходняя Беларусь была перададзена Польшчы. Аднавіць цэласнасць краіны ўдалося часткова ў верасні 1939 г., калі Заходняя Беларусь ізноў была далучана да СССР.

Глыбокай павагі заслугоўваюць нашы землякі з Заходняй Беларусі — барацьбіты за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за беларускую мову, школу і культуру: Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Адам Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Уласаў, удзельнікі беларускага нацыянальнага руху ў Вільні і іншых мясцінах Беларусі. Многія з іх цярпелі пакуты ў польскіх турмах і канцлагерах, некаторыя пасля вызвалення ў 1939 г. ад палякаў адразу трапілі ў савецкія турмы. Трагедыю цэлага пакалення мужных, загартаваных, самаадданых і жорстка падманутых беларускіх нацыянальных дзеячаў цяжка ўявіць.

Не было шчаслівым жыццё нашага народа і ў савецкай частцы Беларусі, што знаходзілася ў складзе Савецкага Саюза. Надзея на лепшае жыццё існавала хіба толькі ў 20-ыя гады, што ўвайшлі ў гісторыю як **перыяд беларусізацыі**. У гэтае дзесяцігоддзе было зроблена нямала для далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Беларускім адраджэнцам 20-ых гадоў удалося дабіцца дзяржаўнасці беларускай мовы, стварэння нацыянальнай школы, нацыянальнага універсітэта, беларускіх выдавецтваў, газет і часопісаў, тэатраў, музеяў, архіваў. Утварыўся Інстытут беларускай культуры, а на яго базе Беларуская акадэмія навук. У канцы 20-ых гадоў у беларускіх школах навучалася да 88% дзяцей.

Аднак зусім іншыя працэсы адбываліся ў эканамічным жыцці Беларусі. Менавіта ў гэты час закладаліся асновы савецкай эканамічнай сістэмы, галоўнай сутнасцю якой станавілася цэнтралізаванае дзяржаўнае кіраўніцтва. Калектывізацыя разбурыла беларускую вёску як аснову эканамічнага патэнцыялу краіны, знішчыла рэшткі таварна-грашовых адносінаў, фактычна аднавіла феадальныя парадкі ў ганебнай дзяржаўна-прыгонніцкай форме. Індустрыялізацыя па-савецку не ўлічвала інтарэсаў рэспублікі і яе насельніцтва.

Таталітарны савецкі рэжым праводзіў палітыку поўнай унітарызацыі,ператварэння нацыянальных рэспублік у безаблічныя адміністрацыйныя адзінкі новай савецкай імперыі. Канстытуцыя СССР 1936 г. знішчыла рэшткі суверэнітэту Беларускай ССР. Распачатыя ў 30-ых гадах палітычныя рэпрэсіі спынілі далейшае развіццё нацыянальнай справы ў Беларусі. **Ахвярамі рэпрэсій сталі прыкладна адзін млн. чалавек**, сярод іх дзяржаўныя і гаспадарчыя дзеячы, таленавітая беларуская інтэлігенцыя. Найбольш гаспадарлівае сялянства вынішчылі ў працэсе прымусовай калектывізацыі. У 1937—1938 гг. было загублена больш за 80 беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Толькі ў адзін дзень, 29 кастрычніка 1937 г., расстралялі дзевяць беларусіх літаратараў, сярод іх былі Платон Галавач, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі.Праз дзесяцігоддзі іх, як і многіх іншых, рэабілітавалі, але беларуская справа была падсечана. Цяпер нашых бязвінных пакутнікаў мы ўшаноўваем на Дзяды ў Курапатах і па ўсёй Беларусі, але вярнуць нацыі яе страты немагчыма.

Пазбаўленай сваіх лепшых сыноў апынулася Беларусь перад новай страшэннай пагрозай — нашэсцем нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З пачатку верасня 1939г., калі першыя ўдары вайны прыняла на сябе разам з Польшчаю і Заходняя Беларусь, а потым — у чэрвені 1941г.

У Другую сусветную вайну Беларусь зведала лёс заложніцы паміж дзвюма варожымі таталітарнымі сістэмамі — сталінскай бальшавіцкай і гітлераўскай фашысцкай. Менавіта на нашай зямлі адбывалася змаганне двух рэжымаў за новы перадзел свету. Кінуты на фізічнае вынішчэнне народ Беларусі ўзняўся на абарону сваёй зямлі, самога сябе і сваёй будучыні. Абышлося нам гэта неверагодна дорага, як нікому ў свеце. **У апошняй вайне зноў загінуў кожны трэці жыхар Беларусі, знішчана больш паловы нацыянальнага багацця, край ператварыўся ў выгарышча. Было разбурана 209 гарадоў і мястэчак, спалена 9200 вёсак, з іх 628 — з жыхарамі.** Пра жудасную трагедыю часоў вайны напамінаюць сумныя званы Хатыні, Трасцянец і іншыя месцы масавага знішчэння людзей падчас нямецка-фашысцкай акупацыі.

Як адна з краінаў, што зрабілі велізарны ўклад у разгром нямецкага фашызму, Беларусь ў 1945 г. стала адной з заснавальніцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Перамога над нямецкім фашызмам дасталася нам страшэннай цаною, але не прынесла жаданай волі нашаму народу. Пасля вайны працягвала на ўсю моц працаваць жудасная машына палітычных рэпрэсіяў, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе прымусова ствараліся калгасы, знішчалася ўсё беларускае. Частка заходніх беларусаў, дакладней, насельніцтва Беластоцкага краю, у выніку перадзелу межаў ізноў трапіла ў склад суседняй Польшчы.

Працавіты, самаахвярны беларускі народ у вельмі кароткі час пасля вайны адбудаваў разбураную краіну. Узняўся з руінаў Мінск, ажылі Брэст, Магілёў, Віцебск, Гомель, паўсталі нанова многія спаленыя вёскі. Жыццё працягвалася. Беларусь паступова станавілася эканамічна развітым рэгіёнам СССР. Тут пабудавалі заводы-гіганты машынабудаўніцтва, радыёпрамысловасці, па вытворчасці бытавой тэхнікі, угнаенняў. Прадпрыемствы высокіх тэхналогій працавалі на патрэбы ваеннага комплексу і касмічных праграм СССР. Але ўсё гэта будавалася без уліку інтарэсаў эканомікі самой рэспублікі. Стваралася не індустрыя самастойнай краіны, а своеасаблівы зборачны цэх Савецкага Саюза. Аб'ём выпрацаванай прадукцыі быў арыентаваны на спажыванне на абшарах СССР і за яго межамі. Нездаровы перакос развіцця эканомікі і яго цяжкія наступствы для Беларусі праявіліся пасля распаду СССР у 1991 г., калі гіганты індустрыі страцілі рынкі збыту і ператварыліся ў цяжкае ярмо на шыі нашага народа. Індустрыяльны патэнцыял краіны аказаўся не надта здольным да самастойнага існавання. Беларусь — яскравы ўзор каланіяльнай палітыкі метраполіі ў адносінах да забраных тэрыторый. Відаць гэта і на экалагічных наступствах для Беларусі індустрыялізацыі па-савецку. Непапраўныя страты нанеслі экалагічныя бедствы ў раёне Салігорскіх шахтаў, забруджана атмасфера вакол гігантаў нафтахіміі, Гродзенскага "Азота", Магілёўскага лаўсанавага завода і г.д. Цераз Беларусь працягнуты лініі нафта- і газаправодаў, без карысці для нашай краіны гоняць у Еўропу на продаж расійскія прыродныя багацці. Беларусам ад гэтага няма выгады, але затое нам пастаянна даводзіцца змагацца са шматлікімі аварыямі, што здараюцца ў сувязі з небяспечным тэхнічным станам састарэлага абсталявання.

Не менш стратаў панесла Беларусь ў галіне сельскай гаспадаркі. На працавіты беларускі народ Масквою быў навешаны яшчэ адзін цяжкі абавязак — карміць цэнтральныя рэгіёны СССР. Былі пабудаваны гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы, птушкафабрыкі. Цягнікамі на ўсход адпраўлялі мясапрадукты, а нам заставаліся "ножкі ды рожкі" ды цэлыя азёры атрутнай жыжы ад такіх комплексаў, што знішчалі ўрадлівыя землі, забруджвалі наваколле. Злачынная палітыка татальнай меліярацыі на Беларускім Палессі прывяла да незваротных экалагічных зменаў ва ўсёй краіне і да страты ўрадлівых земляў.

Заканамерным вынікам безадказнай палітыкі, заключным яе злавесным акордам стала найвялікшая ў гісторыі чалавецтва **ядзерная катастрофа на Чарнобыльскай АЭС 26.04.86** у суседняй Украіне. Яна прынесла Беларусі незлічоныя страты. 70% радыяцыйных ападкаў асела на нашу краіну, забруджанымі аказаліся 23% тэрыторыі, на якіх жыло 20% насельніцтва (2,1 млн. чалавек).

**Так, на жаль, найвялікшыя бедствы дасталіся гаротнай Беларусі, калі ўспомніць яшчэ і тыя самыя разбуральныя за ўсю гісторыю чалавецтва дзве сусветныя вайны, якія спусташальным валам пракаціліся па нашай зямлі. Даводзіцца толькі здзіўляцца неўміручасці духу нашага народа.**

Афіцыйная палітыка савецкай дзяржавы, скіраваная на зліццё нацый ў адзіны савецкі народ, прывяла да заняпаду культурных набыткаў беларусаў. Паступова ліквідаваліся бела-

## МЫ Ў СВЕЦЕ — СВЕТ ВАКОЛ НАС

рускія школы, выцяснялася з ужытку беларуская мова, паўсюдна запанавала руская. Беларусь несла значныя страты ў людскіх рэсурсах. Беларуская моладзь цэлымі эшалонамі вывозілася на асваенне цалінных зямляў Казахстана, на лесанарыхтоўкі ў Карэлію і Комі, на будаўніцтва гідраэлектрастанцый, Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі, на сібірскія нафтаперапрацоўкі, выпускнікі беларускіх ВНУ накіроўваліся на працу далёка ад Радзімы. У краіну прыязджалі на пастаяннае жыхарства адстаўныя афіцэры з Расіі, многія з якіх сёння выступаюць супраць замацавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Забраная ў войска беларуская моладзь гінула ў Венгрыі, Егіпце, Афганістане, у ваенных канфліктах за чужыя інтарэсы ў Сярэдняй Азіі, на Каўказе, па ўсім свеце, куды сягалі інтарэсы савецкай імперыі.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-ых гадоў аднавілі надзеі беларусаў на самастойнае жыццё. **Пачало набіраць сілы новае беларускае Адраджэнне.** Створаныя грамадскія структуры ўзялі на сябе арганізацыю нацыянальнага дэмакратычнага руху. Сярод іх найбольш уплывовыя – Беларускі народны фронт, лідэрам якога стаў Зянон Пазьняк, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада на чале з Міхасём Ткачовым.

**27 ліпеня 1990г. ва ўмовах крызісу савецкай сістэмы і ў выніку змагання за незалежнасць была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. 25 жніўня 1991г. пасля распаду СССР Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закона.**

19 верасня 1991 г. на сесіі Вярхоўнага Савета была зацверджана новая назва нашай самастойнай краіны — **Рэспубліка Беларусь** і адноўлена наша старадаўняя сімволіка. **У 1994г. была прынята Канстытуцыя нашай новай дзяржавы**. Першым старшынёй Вярхоўнага Савета, асноўнага заканадаўчага органа краіны, у 1991г. быў абраны Станіслаў Шушкевіч.

У ліпені 1993 г. у Мінску адбыўся першы ў гісторыі нашага народа Сусветны з'езд беларусаў, арганізаваны Згуртаваннем "Бацькаўшчына". На Радзіму з'ехаліся беларусы з розных краінаў свету.

У тыя гады было зроблена шмат, каб дзяржаўная самастойнасць і вольнае жыццё сталі рэальнасцю для шматпакутнага беларускага народа. Пачалі складвацца ўсе неабходныя дзяржаўныя інстытуты самастойнай краіны.

Аднак шлях да свабоды і годнага чалавечага жыцця аказаўся больш складаным, чым тады бачылася. Пакуль ён не пройдзены намі. Навязаныя народу рэферэндумы ў 1995г., 1996г. кардынальна змянілі накірунак развіцця краіны. **Інтэграцыйная палітыка сённяшніх уладаў Беларусі, скіраваная на аб'яднанне з іншымі краінамі, непазбежна прывядзе да фактычнай страты нашай дзяржаўнасці і занядбання жыццёвых інтарэсаў народа Беларусі.**

У такой сітуацыі нашаму народу неабходна абаперціся на свой драматычны гістарычны вопыт, глыбока ўсвядоміць, што ўласная дзяржаўнасць — наша найвялікшае дасягненне і самая высокая каштоўнасць.

На Зямлі жыве мноства нацыянальнасцяў і толькі каля двухсот маюць свае дзяржавы. Сярод іх на карце свету пэўнае месца займае Рэспубліка Беларусь, і яе трэба берагчы кожнаму з нас. Уласная дзяржаўнасць забяспечвае найбольш спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця любой нацыі, таму ва ўсіх краінах і ва ўсе часы народы змагаліся за незалежнасць. Нашы продкі лічылі гэта найвышэйшым сваім абавязкам.

**Беларуская дзяржаўнасць аплачана мільёнамі жыццяў нашых папярэднікаў. Зямля Беларусі абмыта крывёю лепшых яе сыноў, пралітай ў змаганні за волю, шчодра палітая потам тых, хто ствараў матэрыяльныя і культурныя багацці, што ў нас сёння ёсць.**

**Справа гонару і святы абавязак кожнага, хто жыве ў нашай краіне, — мацаваць дзяржаўную незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, не страціць яе, каб ізноў не апынуцца ў няволі, ад якой досыць напакутаваўся беларускі народ. Трэба жыць уласным розумам, быць гаспадарамі свайго лёсу!**

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

*Помнік Янку Купалу ў Мінску.*



Бюлетэнь Грамадскага навукова-аналітычнага Цэнтра
БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

Bulletin of "Belarusian Perspective" Centre for analysis and research.
№ 2 (10), February, 1999.
Выдаецца на правах унутранай дакументацыі грамадскай арганізацыі.

Галоўны рэдактар Валянціна Трыгубовіч.

Паштовы адрас: 220012, Мінск-12, а/с 225.
Тэл. 227-04-54, факс 227-13-16.
E-mail: perspbel@user.unibel.by